# Старая песня і нават не на новы лад!

24. 3. 54 Старшыня Амэрыканскага Камітэту адмірал Леслі К. Стівэнс выдаў новую інструкцыю для прадстаўнікоў так званага «Парыскага Блёку», адрасаваную г. г. Мельгунову і Гегечкоры. Інструкцыя гэтая, як піша адмірал Л. К. Стівэнс, павінна быць паложана ў аснову супольнае працы з Амэрыканскім Камітэтам.

На чым палягае «навасьць» гэтае інструкцыі? Вось яе зьмест:

1. Бясспрэчнае права ўсіх, насяляючых тэрыторыю Савецкага Саюзу, народаў вызначыць свой лёс дэмакратычным шляхам **пасьля перамогі** над бальшевізмам.

2. Будучы палітычны лад і ўзаемаадносіны між часткамі Савецкага Саюзу, населеннымі рознымі народамі, а такжа **момант і спосаб** зьмены існуючых узаемаадносінаў — гэта пытаньні, якія **ляжаць па за рамкамі супольнае справы.**

3. Групы, якія імкнуцца да рэстаўрацыі перадрэвалючыйнага строю, або да устанаўленьня таталітарнага ражыму ў кожнай форме ў гэтай арганізацыі ўдзелу прыймаць ня будуць.

Як ведама, Амэрыканскі Камітэт ужо мае даволі багатую історыю. Перш ён называўся «Амэрыканскі К-т вызваленьня Народаў Расеі» ды стварыў свой недаўгавечны СОНР.

Пасьля развалу СОНР'у, зьмянілася вывеска на «Амэрыканскі К-т вызваленьня ад бальшавізму» ды ўтварыўся так званы КЦАБ.

Урэшце, паяўляецца на сцэне так званы «Парыскі Блёк» ды творыцца МАКЦ і два КЦАБ'ы.

Партнёры гэтага «Парыскага Блёку» жадаючы, відаць, за ўсякую цану «прыобщиться» да касы Амэрыканскага К-ту, пачынаюць шукаць нейкае кампрамісовае плятформы з расейскімі імпэрыялістамі, якая-б ім пазволіла рэалізаваць свае пляны без выразнае здрады нацыянальным інтарэсам паняволеных нерасейскіх народаў.

Аднак справа ня йдзе так лёгка, як бы ім хацелася і пасьля трохмесячных канфэрэнцыяў, справа фактычна заціхае і з КЦАБ'амі і з МАКЦ'амі.

І вось цяпер, пасьля амаль поўтадовага бязьдзейнічаньня (бо-ж Амэрыканскі К-т спыніў дапамогу адным і другім) апублікоўваецца «новая» інструкцыя для КЦАБ'у і МАКЦ'у, якую яны павінны палажыць у аснову свайго супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам вызваленьня ад бальшавізму.

Калі гэта мае быць тою кампрамісовую палітычнаю плятформаю, якая прыймаецца партнёрамі «Парыскага Блёку», дык «з тем их и поздравляем», але... не заздросьцім!

Мэдыцына знае адну хваробу вачэй, яка называецца «дальтонізмам». Людзі хворыя «дальтонізмам» бачаць усе рэчы ў зялёным колеры. Дык што сярод партнёраў Парыскага Блёку могуть быць «дальтоністы», якія бачаць зялёнымі ня толькі «зялёныя паперкі» Амэрыканскага Камітэту, але і ўсе ягоныя «плятформы», гэта мы дапушчаем, але каб на гэтую хваробу запалі якраз усе партнёры гэтага прадпрыемства, ня хочацца верыць!

Бо што-ж фактычна прадстаўляе сабою гэтая «новая» плятформа Амэрыканського Камітэту і чым яна розьніцца ад КЦАБ'аўскай?

Разгледзім па чарзе ўсе асновы палітычнае плятформы:

1. У пункце першым інструкцыі адмірала Стівэнса гаворыцца аб «праве народаў на вызначэньне свайго лёсу дэмакратычным шляхам пасьля перамогі

(Заканчэньне на 3. балонке)

# „Няудалыя“ і „клясычныя“ дыпляматы

Крывіцкі часапіс ў Амэрыцы «Беларус» з дня 6 сакавіка 1954 г. ў № 23 надрукаваў даўжэзны артыкул пад загалоўкам: «Няўдалы дыплямат ці штосьці іншае», у якім тэндэнцыйна і злосна па зьместу ды ня зусім культурна па форме атакуе д-ра М. Шчорса, за ягонае выступленьне перад комісыяй амэрыканскага Конгрэсу.

Я тут ня зьбіраюся бараніць д-ра Шчорса, бо ягонае выступленьне было ня зусім удалым, але непараўнальна больш удалым, чымсь выступленьне нейкага Н. Д. на балонках «Беларуса».

Справа ў тым, што калі д-р Шчорс няўдала выказаўся у пару мясцох свайго сьветчаньня перад камісыяй, дык тэта кампрамітуе толькі й выключна самога «акцёра», але ня прыносіць аніякай шкоды беларускай справе; калі-ж крывіцкі пісака шукае дзіркі ў цэлым таму толькі, што гэты чалавек не належыць да крывіцкае арганізацыі, дык гэта ўжо шкодзіць ня толькі аўтару і рэдактару, які такія рэчы друкуе, але безумоўна шкодзіць самой беларускай справе.

А шкода гэтая вынікае якраз з таго, што чужынцы, бачучы пастаянную лаянку ды абліваньне памыямі адзім другога сярод беларускай эміграцыі, выносяць нэгатыўнае ўражаньне аб усём беларускай нацыі, што безумоўна адбіваецца на самой справе.

Ці не пара-б ужо нарэшце зразумець так выразную рэчаістасьць ды не асьмешваць саміх сябе? Тым болей гэта трэба аднесьці на рахунак якраз крывіцкае прэсы, якая ў адным і тым жа нумары з аднаго боку насьмяхаецца над «няўдалым» дыпляматам, а з другога боку прадстаўляе яшчэ ў горшым сьвятле сваіх «клясычных» дыпляматаў.

Я тут якраз маю на ўвазе зьмешчаны ў тым жа нумары «Беларуса» артыкул пад загалоўкам: «Змаганьне за беларускі голас у эфіры», дзе аўтар, падпісаны літарай «М» разглядаючы гісторыю Амэрыканскага Камітэту, ды розных КЦАБ'аў і МАКЦ'аў піша: «Прыняць жа палітычную плятформу КЦАБ'у было з гледзішча на ейную супярэчнасьць з нашымі нацыянальнымі ідэямі ды імкненьнямі, таксама цалкам немагчыма». І далей, гаворачы аб утварэньні так званага «Парыскага Блёку», аўтар піша: «Перамовы Парыскага Блёку» з Амэрыканскім камітэтам у красавіку 53 году, якія праводзіў ад імя Блёку прэз. Абрамчык, прывялі да таго, што Амэрыканскі Камітэт стаў на шлях перагляду сваёй дасюлешняй палітыкі ў дачыненьні да КЦАБ'у». Наступна, аўтар хваліцца усімі гэтымі дасягненьнямі і паведамляе аб хуткіх беларускіх перадачах з радыёстанцыі «Вызваленьне».

Мы якраз побач зьмяшчаем артыкул аб гэтай «новай палітычнай плятформе» Амэрыканскага Камітэту і падаём тую інструкцыю, якую старшыня гэтага Камітэту — адмірал Л. К. Стівэнс выслаў пад адрасам якраз «Парыскага Блёку», прычым якраз з гэтай інструкцыяй вярнуўся у Мюнхэн і Абрамчык, які намагаецца намовіць сваіх хаўрусьнікаў з Парыскага Блёку гэтую інструкцыю прыняць без засьцярогаў. Ці гэта так яму лёгка пойдзе, мы ня ведаем, але ходзяць чуткі, што Украінская Нацыянальная Рада ўжо гэтую плятформу адкінула, а грузіны здаецца хочуць зрабіць тое самае! Дык ці можна-ж лаяць д-ра Шчорса за яго «няўдалую дыплямацыю», а выхваляць такія «клясычныя» ходы сваіх дыпляматаў, якія не адмаўляліся ані ад СОНР'у ў Вісбадэне, куды не пайшоў ані водзін іншы прадстаўнік нерасейскіх народаў, ані ад КЦАБ'у, куды Абрамчык паслаў Жытку з яго міфічным БСФ'ам, ані ўрэшце МАКЦ'у, якому нарэшце удалося так «зьмяніць» дасюлешнюю плятформу Амэрыканскага Камітэту!

Дык калі гэтая зьмененая «новая» плятформа Амэрыканскага Камітэту лічыцца крывічамі вялікім дасягненьнем «клясычнае дыплёмацыі» Абрамчыка, то ніхто яму не пазаздросьціць!

Ці ад гэтых усіх «клясычных» ходаў Абрамчыка і яго «сьвіты» ня вынікае большая шкода для беларускае справы, чымсь з няўдалага асьведчаньня д-ра Шчорса?

Над гэтым аднак трэба падумаць і спыніць шкодную для беларускай справы тактыку абліваньня гразёю сваіх палітычных (ды хоць бы палітычных?) праціўнікаў!

Нельга-ж згадзіцца з тым, што усё тое, што выходзіць з боку БЦР — гэта бэзумоўна дрэнна, а ўсё тое, што выходзіць з БНР — гэта толькі добрае! Трэба падходзіць да справаў аб'ектыўна ды даваць і адпаведную ацэнку тое ці іншае дзельнасьці.

Нельга, напрыклад, лаяць крывічоў за тое, што яны здабылі Ватыканскія стыпэндыі для Любэнскіх студэнтаў, бо, што праўда, хоць часьць з іх і здэмаралізуецца тым, што змушана крывіць душою, але гэта аднак будуць адзінкі больш слабыя, з якіх і так і сяк беларуская справа ніякай карысьці ня мела-б, аднак бальшыня студэнтаў атрымае веду і ў будучыні можа быць карыснай для беларускае справы. Тым больш, што тут маем справу з Ватыканам, якога абходзіць якраз выключна рэлігійны бок, без ніякае інгэрэнцыі ў нацыянальныя і палітычныя пытаньні.

Але нельга таго самага сказаць калі Абрамчык бярэ грошы ад палякаў, бо-ж тлумачэньне, што «мы палякаў ашукаем» выглядае дзіцячым і сьмешным! Хутчэй палякі на 100% абкруцяць навакол свайго пальца такіх «клясычных дыпляматаў» як Абрамчык, або Барыс Рагуля, чымсь ім удасцца на 1% ашукаць палякаў. Калі палякі даюць грошы, дык за гэта нечага дамагаюцца? А мы ведаем польскі пункт гледжаньня на нас і на нашыя землі!

(Заканчэньне на 6. балонке)

# МАНІФЭСТ СВОБОДЫ

**Антібальшавіцкага Блёку Народаў (АБН), абвешчаны на 3-цім Кангрэсе АБН ў сакавіку 1954 году**

1. Мір нашых часоў трымаецца на масавай магіле свабоды соцень мільёнаў людзей, паняволеных народаў пад савецка-расейскаю ўладаю. Шматлікія нацыі, што складаюць амаль траціну людзкого роду, ужо пазбаўлены гэтай найвялікшай вартасьці, а рэшта сьвету жыве пад пагрозаю утраты свае свабоды.

2. Шмат горшым за вайну зьяўляецца трывалае вымардоўваньне народных масаў у мірны час. Злачыны сёньняшняга бальшавіцкага тэрору ў шмат разоў перавышаюць злачынствы учарашніх ваенных праступнікаў.

3. Падзел сучаснага сьвету дае не географічны, а ўсесьветны характар. Супрацьлежнасьці зьмяшчаюцца не паміж Усходам і Захадам, а паміж людзьмі і сіламі, з каторых адны выбралі тыранію, а другія — свабоду. Між гэтымі двама лягерамі пакутуе ляная інэрцыя, якая можа прывесьці да фатальных наступстваў.

4. Змагары за свабоду існуюць ня толькі на Захадзе, так сама як і паплечнікі тыраніі — ня ўсе на Усходзе. Якраз па тым боку жалезнае заслоны жывуць свабодалюбныя, але паняволеныя людзкія масы, якія змагаюцца супроць тыраніі, бо яны зазналі яе на собскай шкуры. А па гэтым боку жалезнае заслоны ёсьць мільёны людзей, якія яшчэ сьлепа йдуць за поклічамі бальшавізму, бо яны яшчэ не пазналі ягонай сутнасьці і таму не шануюць сваёй свабоды, якую яны маюць.

5. У барацьбе паміж дабром і злом, сіла зла якраз палягае на слабасьці добра. Дэманічны дух маскоўскага дэспатызму ня мог бы сам заваяваць сьвету ды нішчыць яго, каб не памагала яму ў гэтым засьляпленьне вольнага сьвету, нэгаваньне непадзельнасьці міру і свабоды ды запярэчэньне іх праз пактаваньне з тыраніей.

6. Тым самым сьмяротная небясьпека для нашага сёньняшняга сьвету зьмяшчаецца ня толькі й ня столькі ў самым Крамлю, колькі ў той сыстэматычна-падтрымліванай іллюзыі, што свабода й бальшавіцкі дэспатызм быццам могуць мірна з сабою ўжывацца.

7. Найбольшыя шансы Крамля палягаюць ня ў ідэі усесьветнага камунізму, а такжа ня выключна ў сіле чырвонае арміі, але пераважна ў той іллюзыі Захаду, што быццам мір і дабрабыт аднэй палавіны сьвету можна зьберагчы ці ўратаваць здрадаю другое палавіны сьвету.

8. Галоўныя козыры маскоўскае тыраніі — гэта хістаньне, нязьеднаннасьць ды н398здольнасьць Захаду стварыць адзіны фронт усіх свабодалюбных народаў на Усходзе і Заходзе, якія маглі-б быць змабілізаваны пад знакам новага усесьветнага парадку.

9. Як прадстаўнікі вызвольнай барацьбы народаў ў цэлай сфэры ўлады савецка-расейскае тыраніі, мы заклікаем аб дванаццатай гадзіне народы вольнага сьвету ды іх палітычных кіраўнікоў да усьведамленьня сапраўднай рэчаістасьці:

Адкіньце згубныя іллюзыі ды гляньце нарэшце цьвяроза ў аблічча сапраўднасьці!

Адмоўцеся ад тых памылак, на якія безустанна пхае Вас злачынная ды хітрая дыплямацыя Масквы ў вольным сьвеце!

Зьліквідуйце усе разьбежнасьці ды дробныя эгоізмы між сабою ды па-рыцарску падайце адны другім руку пад лозунгам сьвяшчэннага паходу, ад якога залежыць усё!

Падайце такжа ўчас руку працягненым да Вас рукам нашых скрываўленых народаў, якія павінны быць пакліканы як найбольш пэўны авангард гэтага сьвяшчэннага паходу!

Бо-ж тут ідзе справа ня толькі аб нашые народы і ня толькі аб вашую свабоду і дабрабыт, але аб долю ўсяго людзкога роду ды асновы людзкое культуры наагул.

10. Аб'еднанныя ў АБН народы і іх прадстаўнікі яшчэ раз перасьцярагаюць Вас і заклікаюць:

Далучэцеся да нашага лозунгу — «Свабода народам, свабода чалавеку!» — і адваюйце супольна з намі свабоду усяму сьвету, калі ня хочаце загінуць самі!

А калі тыранія нарэшце будзе пераможана, не затрымоўвайцеся на поўдарозе!

Калі мае быць пабудаваны праўдзівы мір, калі мае быць захавана свабода будучых пакаленьняў, то залажэце ўжо сёньня падваліны пад новы сьвет справядлівасьці — без турмаў народаў, з вольнымі нацыянальнымі дзяржавамі для усіх появоленых народаў сьвету!

Бо-ж няма асабістае свабоды, ані дэмакрацыі, без нацыянальнае свабоды!

І няма такжа нацыянальнае свабоды без дзяржаўнае незалежнасьці!

І няма справядлівасьці без роўнапраўных і незалежных нацыянальных дзяржаваў, злучаных узаемнаю пашанаю ды прызнаньнем!

Хай жыве супрацоўніцтва, салідарнасьць і мір між вольнымі народамі будучага сьвету справядлівасьці й прагрэсу!

Хай жыве усесьветная свабода, якая павінна перамагчы і пераможа, бо-ж яна была, ёсьць і будзе мацнейшаю за дэспатызм!

# Трэці Кангрэс Антібальшавіцкага Блеку Народау

**папераджае заходні сьвет перад маскоўскаю агрэсыяй**

27-29 сакавіка гэтага году ў Мюнхэнэ (Нямеччына) адбыўся 3-ці Кангрэс Антібальшавіцкага Блёку Народаў (АБН).

У першым дню кангрэсу адбыўся многалюдны мітынг ў залі Кольпінгсгайму дзе прысутнічала болей 500 асобаў.

Праграма мітынгу была абшырная, бо трэба было даць магчымасьць выказацца усім прадстаўнікам шматлікіх паняволеных нацыяў.

Адчыніў мітынг старшыня Рады Народаў прэзыдэнт Туркестану — Вэлі Каюм-Хан, які ў кароткіх словах азначыў мэту мітынгу і прывітаў прысутных. Наступна, з дакладам больш абшырным выступіў Прэзыдэнт Цэнтральнага Камітэту Яраслаў Стэцько, а такжа генеральны сакратар ЦК АБН — Покорны. Бураю воплескаў прывіталі прысутныя прывітаньне старшыні Баварскага Парлямэнту і бургомістра гор. Мюнхэну.

Адчытаны былі такжа прывітаньні: ад прадстаўніка Шотляндскае Цэркві — Ватсона, прэзыдэнта Шотляндскае Лігі — Джона Стюарта, генерала Фулера, шэфа дыплёматычнае місыі Латвіі — міністра Лозорайтіса ды інш, якіх тут немагчыма і пералічыць, бо было іх ажно 153.

Нельга такжа за недахопам месца перадаць хоць у скарочаньні зьмест усіх прамоваў, але ўсе яны закранаалі праблемы паняволеных Масквою народаў а такжа падчырківалі тую небясьпеку, якая пагражае з боку камунізму усяму, дагэтуль яшчэ вольнаму, сьвету.

З прамовамі выступалі: Прэзыдэнт Угорскага Вызвольнага Руху — генерал-палкоўнік Фаркаш дэ Кісбарнак, сябра прэзыдыюму Баўгарскага Нацыянальнага фронту — д-р Д. Вальцэв, Старшыня Літоўскага Руху Адраджэньня — рэдактар І. Гітіс, сябра прэз. Грузінскае Нацыянальнае Арганізацыі — князь Ніко Накашідзэ, прадстаўнік Белар. Цэнтр. Рады П. Манькоў прачытаў прамову адсутнага па хваробе прэз. БЦР — праф. Р. Астроўскага, прэзыдэнт Славацкага Вызвольнага К-ту — праф. д-р Дюрчанскі, прадстаўнік Літоўскай Сялянскай Супалкі — Безайс, прадстаўнік Харвацкага Вызвольнага Руху — д-р Сьцяпан Куколя, прадстаўнік Казацкага Вызвольнага Руху — Молчанов, прадстаўнік Албанскага Вызвольнага К-ту — Г. М. Маврова, прадстаўнік Туркестанскага Нацыянальнага К-ту Еднасьці д-р Б. Гаіт, прадстаўнік Чэскага Руху «За свабоду» І. Мысьлівец, прадстаўнік Угорскага Вызвольнага Руху — д-р Зайзон фон Узон.

Наступна быў прачытаны Маніфэст АБН (які друкуем побач), прыняты бурнымі воплескамі прысутных.

На другі дзень 28 сакавіка адбываліся паседжаньні Кангрэсу АБН, на якіх былі прыняты праграмова-палітычныя асновы АБН ды дапоўнены і зьменены некаторые артыкулы Статуту, а пасьля былі выбраны выканаўчыя органы АБН.

Прэзыдэнтам ЦК АБН паноўна выбраны гасп. Яраслаў Стэцько, віцэпрэзыдэнтамі: ген. Фаркаш дэ Кісбарнак і міністар Крісто Статэв (Баўгарыя). Адно месца зарэзэрвована для Туркестанскае дэлегацыі. Генеральным сакратаром ЦК АБН выбраны князь Ніко Накашідзэ. Сябрамі ЦК зьяўляюцца прадстаўнікі усіх нацыянальнасьцяў па 3 дэлегаты ад кожнай.

Старшынёю Рады Народаў выбраны праф. д-р Ф. Дурчанскі, а віцэстаршынёю праф. Р. Астроўскі і ген. Прхаля. Генеральным сакратаром Рады народаў выбраны прадстаўнік літоўцаў — рэд. І. Гітіс.

На трэці дзень 29 сакавіка адбылася прэсавая канфэрэнцыя з удзелам больш трыццаці журналістаў і карэспандэнтаў ад прэсавых агенцый розных краёў і нацый.

**Прысутны М. П.**

# *Беларуская хроніка*

## Супольнае сьвяткаваньна дня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі у Торонто

**Канада:**

**Дня 21-га сакавіка 1954 г.**

Магчыма першы раз пасьля некалькіх гадоў, беларускае грамадзтва Торонто, мела нагоду адзначыць запраўды урачыста 36-я угодкі абвесчаньня Незалежнасьці Беларусі. — супольна.

Гэта факт, хаця некаторым, хто ведае сытуацыю міжарганізацыйных суадносінаў нашых Суродзічаў здасца гэта не магчымым.

Яшчэ за некалькі тыдняў да адбыўшае падзеі, ініцыятыўная група з Монтрэалу запрапанавала разгледзець свой плян супольнага сьвяткаваньня, на што ў першую чаргу адгукнулася Беларускае Нацыянальнае Абеднаньне і ўжо амаль пры катчатковым вырашэньні праблемы пераслалі сваю згоду ЗБК. Такім чынам, супольнае сьвяткаваньне назначана на дзень 21-га сакавіка з удзелам трох лякальных арганізацыяў, а пайменна: Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня, Згуртаваньня Беларусаў Канады і Згуртаваньня Беларусаў у Монтрэалі. Апошнім даручана поўнасьцю праграма ўрачыстасьці, ўсю-ж падгатоўчую працу ўзялі на сябе БНА.

Сьвяткаваньне разпачалося Службай Божай у меснай Беларускай Праваслаўнай Царкве Св. Ефрасіні Полацкай. Службу правіў настаяцель А. Мігай у саслужэнстве з украінскім праваслаўным Сьвятаром. Мужчынскі хор, пад кіраўніцтвам Сп. І. Казачка (Монтрэаль) упрыгожыў Службу выкананьнем «Отчэ наш» — камп. М. Равенскага, «Достойно есьць» — М. Равенскага, «Верую» і «Магутны Божа», што кранула да сьлёз вернікаў.

Пасьля чулых, патрыятычных слоў Айца Мігая, які падкрэсьліў важнасьць сяньняшняй гадавіны — адслужана малебен аб дараваньні сілы і ўстойлівасьці беларускаму Народу ў змаганьні з бязбожным камунізмам за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі. Варта зазначыць, што царква была перапоўнена вернікамі, аднак ня можна памінуць і тое, што суродзічы з ЗБК палічылі непатрэбным быць прысутнымі, таму, што ніводнага з іх не заўважана.

А гадзіне 5-ай пасьля паўдня пачалася ўрачыстая акадэмія. Акадэмію адкрыў Сп. В. Ждан (Монтрэаль), які ў кароткім, але зьмястоўным слове накрэсьліў важнасьць Акту 25-га Сакавіка, ідэя якога павінна лучыць нас у адну беларускую сямью. Падкрэсьліў і той факт, што акурат сёлетняе супольнае сьвяткаваньне і ёсьць гэтым яскравым доказам.

Пасьля ягоных слоў, паплылі прыгожыя акорды «Беларусь наша Маці-Краіна» ў выкананьні Хору Згуртаваньня Беларусаў у Монтрэалі пад кіраўніцтвам Сп. І. Казачка; наступна Хор выканаў: «Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні» словы Я. Купалы, муз. М. Равенскага, і «Пагоня» сл. М. Багдановіча, муз. М. Равенскага. Сваім сапраўды тэхнічна-выпрабленым выкананьнем Хор узварушыў прысутных, якія бурна пасылалі аплодысмэнты.

Наступным, выступаў Сп. М. Паўловіч (Монтрэаль) з вельмі зьмястоўным рэфэратам, у якім ня амінуў сучаснае міжнароднае палітыкі а ў асаблівасьці падкрэсліў аб шкоднасьці адзінанедзялімаўскіх колаў у барацьбе з камуністычным Крамлём. Заканчальная фраза ягонага рэфэрату была заклікам да кансалідацыі і згуртаваньня пад адзіным сьцягам змаганьня ўсіх тых, хто дасюль ня выракся свайго нацыянальнага паходжаньня. Усьлед, выступілі прадстаўнікі нацыянальных арганізацыяў і установаў:

Ад Эстонскага Нацыянальнага Камітэту ў Канадзе — Сп. Салюрант;

ад Казацкага Нацыянальна-Вызвольнага Руху — Палк. Пэтрэнко;

ад Канадыйска-Летувіскай Фэдэрацыі — Сп. Сліжыс;

ад Македонскай Нац. Арганізацыі — Сп. Іконoмов;

ад Кангрэсу Полёніі Канадыйскай — Сп. Сьвідэрскі;

ад Славенскай Нац. Фэдэрацыі ў Канадзе — Сп. Маўко;

ад Славацкага Легіёну — Сп. Якубец;

ад Румынскага Аб'еднаньня ў Канадзе — Сп. Цынта;

ад Камітэту Украінцаў Канады — Сп. Казлоўскі;

ад Укр. Легіёну Сымона Пэтлюры — Сп. Шыдогуб;

ад Саюзу Укр. Ахвяр Рас.-бальшавіцкага Тэрору — Сп. Сэрдзюк;

ад Украінскага Работн. Саюзу — Сп. Мазурык.

Зачытана тэлеграма ад Латышскай Нац. Фэдэрацыі ў Канадзе, а так сама прывіталі прадстаўніцтва Чэшскай Аграрнай Партыі.

Усім прадстаўніком, вышэй вымененых нацыянальнасьцяў, злажыў падзяяу кіраўнік урачыстасьці Сп. В. Ждан.

Пасьля кароткага перапынку, Гурток Мастацкае Самадзейнасьці з Монтр. выканаў сцэнічны твор М. Машары «Сьмерць Кастуся Каліноўскага». У галоўных ролях: Кастусь — П. Чопчыц, Судзьдзя — В. Спічонак, Пракурор — В. Станкевіч, тэкст дэклямавала Сп-ня Тамара Грынько, пад мастацкім кіраўн. Сп. Чопчыца. Ня ўсе маглі спакойна прыглядацца і ўслухоўвацца ў гэтую трагічную сцэну. У бальшыні можна было заўважыць шчырую сьлязіну спаўчуцьця.

Пры заканчэньні праграмы выступіў ізноў Хор ЗБМ. На гэты раз былі выканаьыя: «Час» сл Я. Купалы, муз. М. Равенскага; «На выгнаньні» муз. Вальнчыка і «Марш беларускіх партызанаў» (прац. А. Карповіча) і наш Нацыянальны Гымн.

Праграма закончана. Народ разышоўся з вельмі добрымі ўражаньнямі. Група з Монтрэалю ў колькасьці 21 асоб, атрымала запраўды шчырую падзяку ад Управы і Сяброў Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня, аднак ізноў чамусьці Спадары з ЗБК, хуцьценька пакінулі залю, ня гледзячы на тое, што на запросінах фігуравалі на другім месцы. Далібог прыкра, а з другога боку дзіўна, чаго стыдаюцца і чым гэта так ганарацца, што нават у так вялікі дзень можна было заўважыць гэтую розьніцу? Адны — як людзі. Другія-ж...

**Прысутны**

## Прывітаньне да беларусаў усяго сьвету, перададанае 2. сакавіка 1954 сябрай БЦР Інж. Эмануілам Ясюком па радыё з Нью Ерку

Дарагія сёстры і браты беларусы!

Вітаю Вас з вялікім сьвятам Сакавіка. Сяньня мінула 36 гадоў з таго часу, як 25-га Сакавіка 1918 году Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў сваёй трэцяй установай грамаце абвесьціла поўную незалежнасьць Беларусі. У трэцяй грамаце гаворыцца: «скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежня край».

Ідэя незалежасьці заўсёды жыла сярод беларускага народу. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі сваім актам аб узнаўленьні Беларускай Дзержаўнасьці толькі выявіла народную волю, якую народ выказаў на Першым Усебеларускім Народным Кангрэсе.

З гэтага мамэнту беларускі народ не на хвіліну не спыніў актыўнае барацьбы за сваю самостоўную дзяржаву.

За Беларускую самостойную незалежную дзяржаву змагаліся Слуцкія Паўстанцы. За беларускую Дзяржаву змагаліся Нацдэмы.

За Беларускую Дзяржаву змагалася стотысячная Грамада!

У 1944 годзе быў скліканы Другі Усебеларускі Народны Кангрэс у сталіцы Менску. На гэтым Кангрэсе народныя прадстаўнікі заявілі ўсяму сьвету, што тыя ідэалы, якія былі выказаны Першым Усебеларускім народным Кангрэсам і Радай Беларускай Народнай Рэспублікі ў Акце 25-га Сакавіка 1918 году, застаюцца непахіснымі: гэта значыць, што беларускі народ ніколі не адмовіцца ад барацьбы за вызваленьне свае Бацькаўшчыны.

На Другім Усебеларускім Народным Кангрэс была створаная Цэнтральная Рада, яка правяла мабілізацыю і ўтварыла збройную сілу пад назовам Беларуская Краёвая Абарона для абароны Беларусі ад маскоўска-бальшавіцкай тыраніі.

Сяньня ў барацьбе за незалежнасьць Беларусі ўцягненыя ўжо сотні тысяч людзей.

Там — на Бацькаўшчыне ад Бута да Дзясны ў лясох гэраічна змагаюцца цэлыя тысячы беларусаў. Тысячы іх гінуць у канцэнтрацыйных лягерох Сыбіру. Шалее люты маскоўскі бальшавізм, губіць нашых братоў ды праліває няміласэрна беларускую кроў.

Азьвярэлы маскоўскі бальшавізм у барацьбе з беларускім вызвольным рухам ня ведае мяжы: бальшавікамі расстраляны сотні беларускіх сьвятароў, пісьменьнікаў, паэтаў, сотні беларускіх прафэсароў, кампазытараў, артыстаў, настаўнікаў і нязьлічаная колькосьць беларускіх сялянаў. З гэтае прычыны, як выказвае статыстыка, за час панаваньня бальшевізму на Беларусі насельніцтва нашага краю не павялічылася, а наадварот — зменшылася з 22 міліёнаў да васемнаццаці мільёнаў.

Як бачыце, дарагія браты і сёстры, далейшае панаваньне бальшавізму на нашай Бацькаўшчыне пагражае вынішчэньнем нашай нацыі і таму мы беларусы на эміграцыі павінны як найцясьней згуртаваць свае сілы і змагацца разам з усімі паняволенымі народамі супроць агульна людзкога ворага бальшавізму, тым балей мы — беларуская эміграцыя — карыстаючыся ўсімі свабодамі на вольнай зямлі Вашынгтона і Лінкольна — найбольш дэмакратычнай краіне сьвету, павінны лічыць сваім абавязкам дапамагаць у вызваленьні з пад бальшавіцкага ярма нашай шматпакутнай бацькаўшчыны і народу!

Мы верым цьвёрда, што ў недалёкай будучыні зазьяе наш сьцяг у дарагой сталіцы Менску, як краіне вольнай і незалежнай ад маскоўска-камуністычнай тыраніі.

Няхай жыве вольная і незалежная Беларусь!

Няхай жывуць Спалучаныя Штаты Амэрыкі!

## Дэкрэт прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады

У сувязі з тым, што ў хуткім часе прадбачыцца скліканьне сэсыі Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады, а справа пісьмовага перказваньня сябрамі БЦР сваіх мандатаў упоўнаважаным дагэтуль ня ўрэгулявана ані статутам, ані рэгулямінам прэзыдыюму Пленуму, лічу сваім абавязкам, да часу вырашэньня гэтага пытаньня Пленумам БЦР, увесьці наступную норму:

Кожны сябра БЦР, які ня можа асабіста прыбыць на пленум, можна перадаць сваё паўнамоцтва (пісьмова) іншаму сябры БЦР, які будзе непасрэдна прыймаць удзел у Пленуме, з тэю, аднак засьцярогаю, што **ніхто ня можа мець болей чымсь два, перказаныя яму, паўнамоцтвы.**

На падставе гэтага, а такжа з увагі, што:

1. некатарыя сябры БЦР з паза США зьвярнуліся да мяне з заявю аб жаданьні перказаць дасюлешнія паўнамоцтвы іншым асобам,

2. у міжчасе зайшлі структуральныя зьмены ўнутры некатарых арганізацыяў.

Прэзыдыюм Пленуму БЦР, абвяшчаючы аб даце скліканьня сэсыі пленуму БЦР:

1. падасьць да ведама ўсіх сяброў БЦР аб абмежаваньнях колькасьці ўпоўнаважаньняў, згодна з гэтым дэкрэтам,

2. загадае выбар дэлегатаў па арганізацыям і перказ поўнамоцтваў **па чарзе ў кожнай краіне** з мэтаю недапушчэньня адхіленьняў ад вышпаданае нормы.

Дадзена ў Нямеччыне, ў дзень 3. красавіка 1954 г.

/—/ **Р. Астроўскі**
Прэзыдэнт
Беларускай Цэнтральнай Рады

Сьцьверджана:

/—/ **А. Руссак**
Старшыня калегіі БЦР

## Торонто

У суботу дня 20-га сакавіка, Гурток Мастацкае Самадзейнасьці ЗБМ, ладзіў свой чарговы выступ для Суродзічаў у Торонто. У праграме:

а) «Курган» — сцэнічна-музыкальны мантаж на словы Я. Купалы, муз. А. Карповіча. У галоўных ролях: Князь — В. С-ак, Гусьляр — П. Ч-ч. Тэкст дэклямавала Т. Грынько, акампаньямэнт піяно — Сп-ня З. Саладуга.

б) Выступ Мужчынскага хору ЗБМ пад кіраўніцтвам І. Казачка.

в) Народныя танцы ў выкананьні: Тамара і Дуня Грынько, і Леня Кішко.

г) Камэдыя «Зьбянтэжаны Саўка» Аляхновіча, ў ролях: Саўка — П. Чц, Маргрэта — Спня З. Ігнатава, жабрак — В. Б-ч.

Мастацкае кіраўніцтва — Сп. Паўло Чопчыц.

Аўдыторыя была перапрунeнай. За дапамогу і шчырае прыняцьце, Гурток Мастацкае Самадзеяльнасьці гэтай дарогай складае сваю шчырую падзяку Управе БНА і ўсім сябрам, якія спрычыніліся да гэтага.

**Удзельнік**

## США

**Пассэйк.** Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт (аддзел у Пассэйк) адчыніў тут «Беларускі Клюб», дзе аднaчасна месьціцца й аддзел К-ту ды праектуецца бібліятэка-чытальня. У вялікай і прыгожай залі клюбу адбываюцца лекцыі беларусазнаўства для дзяцей і дарослых, а такжа адбываюцца розныя грамадзкія сходы й зборкі.

6-га сакавіка ў Нью Ерку, Карнегі Голл адбыўся вечар мастацкай самадзейнасьці студэнтаў з Усх. Эўропы. У гэтым вечары прымала ўдзел Аб'еднаньне Беларуска-Амэрыканскіх Студэнтаў, сакратарка якога студэнтка Л. Лапіцкая мела зьмястоўны інфармацыйны рэфэрат адносна Беларусі, а дзявоцкі ансамбль пад кіраўніцтвам сп. П. Нядзьвецкага задэманстраваў беларускія песьні і танцы. Акрамя гэтага нашыя студэнткі частавалі прысутных беларускімі нацыянальнымі стравамі.

Саюз Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Саўт Рывэр 6-га сакавіка ладзіў волейбольны і пінг-понгавы турніры з удзелам іншанацыянальных камандаў, а пасьля танцавальны вечар. Зацікаўленасьць імпрэзамі была вялікая, што сьведчыць або той карыснай працы, якую праводзіць СБАМ.

## *Жменя вестак з БССР*

**Наваградак.** Дзякуючы таму, што Наваградак пабыў пару гадоў абласным цэнтрам (цяпер ён зьшоў да ролі раённага гораду), ён ступнёва даволі шыбка адбудаваўся па вайне. За апошні час пабудаваны даволі вялікія будоўлі пад тэхнікум савецкага гандлю, фінансавы тэхнікум, кіно і готэль. У гэтым годзе на ўскраіне горада распачалася будова вялікага варывасушыльнага заводу. У горадзе ўжо працуюць: трыкатажная і швэйная хвабрыкі, завод сухога малака, лесапільны завод, ліцейна-мэханічны завод, пашыраны і змэханізаваны кахэльны завод, а такжа хвабрыка мэблі. Працуе такжа так званы дом культуры і 3 бібліотэкі. Акром таго — некалькі школаў. Аднак савецкая рэчаістасьць, як пішуць, налажыла на ўвесь горад пячатку маўчаньня, бо-ж людзі баяцца шчыра абмяняцца сваімі думкамі нават з сваімі блізкімі, не кажучу ўжо аб знаёмых.

І хоць у раёне налічваецца аж 41 лекараў і 124 сярэдне-мэдычнага пэрсаналу, аднак адсутнасьць лекаў мала дае насельніцтву карысьці з усяго так званага нарздрава.

**Вялікая Кракотка,** Слонімскага раёну, Гарадзенскай вобласці. Яшчэ ў 1926 годзе тут была адчынена бібліятэка Т-ва Беларускай Школы стараньнем б. вучня Віленскай Беларускай гімназіі Валенціна Таўлая (памёр ў 1947 годзе). Аднак пасьля арышту Таўлая польскімі ўладамі, бібліятэку паліцыя зачыніла, а ўсе кніжкі сканфіскавала.

Цяпер ізноў гэтая бібліятэка адчынена ды носіць назоў бібліятэкі імя Янкі Купалы. Жонка нябошчыка Я. Купалы — В. Луцэвіч перадала ў фонд гэтае бібліятэкі шмат цэнных кніжак. Лік чытачоў у гэтай вясковай бібліятэцы значна ўзрос, але яны аднaчасна хацелі-б мець крышку кніжак і іншых, чымсь тыя, якімі завальвае бібліятэку савецкая ўлада. Камуністычная прапаганда ўжо ўсім збрыдла, але ратунку на гэта пакуль што няма.

